# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 50 (1596) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 14 СНЕЖНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.




Гурткоўцы ўшанавалі памяць савецкіх воінаў, загінуўшых за вызваленне Сакольшчыны, усклаўшы на магілах вянкі і кветкі.




З'ехаўшы з поля, калі трактары, камбайны ды ўсе іншыя сельскагаспадарчыя машыны пастаўлены ўжо на асенне-зімовы адпачынак, можна дазволіць сабе і на сяброўскія бестурботныя сустрэчы, і на песні ў вясёлай кампаніі, і на глыбейшы роздум аб сэнсе сваёй працы.

І тут на першае месца вылучаецца абгрунтаваная штодзённым жыццём простая праўда, што без сельскагаспадарчых гурткоў, аб'яднаных у Саюзах сялян, гурткоў і сялянскіх арганізацый, проста немагчыма зараз уявіць сабе сучасную вёску ў Польшчы. На Беласточчыне пад восень гэтага года дзейнічала 1224 сельскагаспадарчыя гурткі і амаль столькі ж (1216) гурткоў вясковых гаспадынь. Аб'ядноўваюць яны 58 тысяч сялян, з чаго 28 тысяч — гэта жанчыны.

— Некаторыя з нашых гурткоў, — сцвярджае Збігнеў Ліпскі, шматгадовы старшыня праўлення Ваяводскага саюза сялян, гурткоў і сялянскіх арганізацый, — былі створаны яшчэ ў пачатку XX стагоддзя.

На тэрыторыі, якая ў першую чаргу цікавіць наш беларускі тыднёвік, сельскагаспадарчыя гурткі не запускалі сваіх карэнняў у гісторыю аж так глыбока. У памяці маёй, як за імглою, успльівае, для прыкладу, маё першае знаёмства з сельгасгуртко ўскімі дзеячамі ў Орлі. Было гэта зімой у пачатку 60-х гадоў. Памятаю, што арлянцы хваліліся сваёй грамадскай актыўнасцю, бо ўдалося ім на грошы з сельскагаспадарчага фонду купіць для свайго гуртка звычайны трыер — машыну для ачысткі збожжа ды ўсялякіх іншых зернеплодаў. Карыстаўся гэты трыер вялікім поспехам у сялян. Цяпер асновай дзейнасці арлянскай спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў з'яўляецца дбайная эксплуатацыя збожжавых камбайнаў, трактараў, бульбакапалак, ды ўсёй іншай сельскагаспадарчай тэхнікі, якая створана, каб аблегчыць працу земляробам. У гэтай дзейнасці арлянцы зноў дабіліся немалых поспехаў, заваявалі трэцяе месца ў ваяводстве, што было адзначана і ў час сёлетніх ваяводскіх дажынак.

На Беласточчыне зараз дзейнічае 39 спулдзельняў сельскагаспадарчых гурткоў, а ў іх распараджэнні знаходзіцца маёмасць вартасцю ў 6 мільярдаў злотых. Праўда, цяпер адзін тыповы трактар з камплектам неабходных машын каштуе ўжо мільён злотых, а цана аднаго толькі камбайна даходзіць да некалькіх мільёнаў злотых. А ўсё ж такі гэты лік, 6 мільярдаў злотых, які вызначае вартасць эскаэраўскай маёмасці, выклікае шмат якія думкі. Першая з іх накіроўвае нашу ўвагу на тое, што гэтая маёмасць не прыналежыць нейкаму аднаму багацею, капіталісту. Гэта супольная маёмасць сялян — членаў сельскагаспадарчых гурткоў, якія на аснове сеймавай пастановы маюць непасрэдны ўплыў на дзейнасць сваіх, іменна сваіх, спулдзельняў сельскагаспадарчых гурткоў, у якіх знайшлі працу перш за ўсё маладыя, добра адукаваныя людзі. 3 тысячы чалавек налічваюць зараз штатныя кадры ў СКРах на Беласточчыне. Зласлівцы сказалі б, што гэта 3 тысячы дармаедаў, якія са сваімі лыжкамі пхаюцца да сялянскага стала. Але без гэтых „дармаедаў" цяжка было б уявіць сабе цэлую гэтую эскаэраўскую машынерыю, яна без іх проста не магла б круціцца. І дырэктар і звычайны, засмолены трактарыст іграюць у гэтым сельскагаспадарчым спектаклі аднолькава важную ролю. І таму аднолькавае ў іх права і на працу, і на адпачынак.

VIII краёвы з'езд дэлегатаў ад сялян, гурткоў і сялянскіх арганізацый пастанавіў, што дзень 1 кастрычніка кожны год будзе адзначацца як **Дзень дзеячоў сельскагаспадарчых гурткоў.** Я быў сёлета на святкаванні гэтага дня. Ваяводскі саюз сялян, гурткоў і сялянскіх арганізацый ніколі не забывае пра „Ніву", калі наладжвае нейкае важнае мерапрыемства для сваіх членаў.

(Працяг на стар. 5)




## З ЧАГО ПАЧЫНАЕЦЦА ЧАЛАВЕК?

Пра тое, што ў нас бандыту свабадней, чым камусьці іншаму, усе мы добра ведаем. У некаторых ёсць дзеля таго нават і тлумачэнне: ад вякоў так на свеце, дабро са злом пераплятаюцца, адно аднаго перамагаюць. Таму і войны, і ўсякія іншыя страшныя няшчасці... І ў тым, што ў нашым грамадстве столькі хуліганства ды разбою, таксама кожны з нас пакрысе вінаваты. Дзяцей мы сваіх разбэшчваем без усялякае меры, дагаджаем, не прымерваючыся, бы даўні мужык пану! Такі малакасос іншы раз ляпне грубае слоўца, дык бацька, замест ляснуць яму за такое па мухаедах або хоць прыкрыкнуць, дык яшчэ і засмяецца, бы дурань які стары. І сынок, вядома, далей падымае свае рогі і ўжо бачыш, як на бандзюга вырастае, якому ўсё дазволена. Пачынаецца тэрор жульніцтва! Уся гэтая неўдалота злучаецца ў хэўры, нападаюць упяцёх на аднаго. І ў міліцыю не вельмі пойдзеш, бо сведкам будзеш і пасадзіш, скажам, такога асталопа на год-два, а ён потым вернецца і „палічыць табе зубы".

Закон, во, замала суровы, задоўгая судовая працэдура; адвакат, якога ноймe такі бандыт, пацягае цябе за язык, ажно акалее ён табе ад гаварэння і перагаворвання ўсё таго самага па дзесяць разоў. А хуліган рэдка без радні бывае, і радня тая таксама па-воўчаму будзе глядзець на цябе, на такога справядліўца. А калі ты яшчэ і гаспадар, значыць, стадола ў цябе ёсць, а гэта значыць далей, што можна цябе і спаліць, голым пакінуць.

Таму людзі маўчаць, таму баяцца мець дачыненне з міліцыяй і судамі.

Разбой у нас цяпер не меншы, чым алкагалізм, п'янства. Дарэчы, тут простая ўзаемасувязь: дзе гарэліца, там і зарэзаць могуць. Але самагоннікаў і патаемкі добра цяпер пляжаць міліцыі: тут і сведкі непатрэбны. Каб так яшчэ і за бандытаў узяліся!...

Развялося ў нас і іншых спекулянтаў. Я ўжо не кажу пра тых, хто жыве з выездаў за граніцу, у Будапешт ці Канстантынопаль на торг тайны. Спекулююць у нас, чым хочаш: ланцугамі ад ровараў, усякімі запаснымі часткамі, адзеннем. Тысячы за нішто заграбаюць у кішэні...

З такімі вось невясёлымі думкамі ўзяўся я чытаць фельетон Барскага „Аб культуры" ў трыццаць дзевятым нумары „Нівы".

(Працяг на стар. 4)




## АБ ПЕСІМІЗМЕ І БЯЗВЕР'І

Вялікая катэгорыя людзей у Польшчы і асабліва моладзі ўзбройваецца ў дзіўную ідэалогію песімізму і бязвер'я. На іхнюю думку Польшча — краіна без якіх-небудзь дасягненняў і перспектыў. Параўнаўча нядаўна мяне наведаў трыццацігадовы чалавек, які з увагі на сваю прафесію мог бы быць названы стражнікам новага ладу ў нашай краіне. І вось гэты чалавек ва ўсю іванаўскую панёс лухту на сучасную Польшчу. Побач са мной сядзела беларуска, якая скарыстала ў Народнай Польшчы не меней, чым я. Паходзячы з тыповай беларускай, так моцна калісьці захудалай вёскі, яна закончыла не толькі сярэднюю школу, але і універсітэт. Мала таго, атрымала ва універсітэце пасаду малодшага навуковага супрацоўніка. Зразумела, што гэта было б абсалютна немагчымае ў іншай чым народнай, Польшчы. Я быў пераканаты, што, хто як хто, але гэта асоба падтрымае мяне поўнасцю. Якім жа вялікім было маё здзіўленне, калі гэта пані тады, як толькі разгарнуў атаку мой госць, ажывілася на твары і пачала падтакваць не мне, а майму апазіцыянеру. Асмелены такім абаротам справы, госць крыкнуў: „Ну што,не маеш ніякіх аргументаў! Народная Польшча не вырашыла ніводнай праблемы.“ І тут я ўзарваўся таксама і вылажыў праблемы, якія вырашыла Народная Польшча:

— мільёны людзей палепшыла свой матэрыяльны быт;

— мільёны людзей бясплатна закончылі сярэднія або вышэйшыя навучальныя ўстановы;

— мільёны лішніх у вёсках людзей прынялі гарады, у якіх яны атрымалі працу і кватэры і радыкальна палепшылі сваё жыццё;

— мільёны сялян пачалі „людзьмі звацца“ і жывуць сёння ў суме лепш, чым сярэдні слой усяго польскага грамадства;

— сяляне атрымалі першы раз у жыцці права на бясплатнае лячэнне і немалыя пенсіі;

— жанчыны, якія нарадзілі дзяцей, атрымоўваюць некалькігадовы платны водпуск.

Госць мой замоўк, пасумнеў твар і беларускі. Выразна ім не спадабалася мая аргументацыя, якой, што як што, але маны не закінеш.

На жаль, такая пастава здараецца вельмі часта. Прывяду яшчэ адзін прыклад. Не так даўно я спаткаў дацэнта, які нарадзіўся яшчэ перад вайной і вышаў з вельмі беднай сям'і. Сям'я гэта была вечна галодная. Яе члены насілі восенню і зімой лапці, а вясной і летам бегалі боса. Такіх сямей у даваеннай вёсцы былі тысячы, калі не мільёны. І вось гэты дацэнт знакаўтаваў мяне, заявіўшы, што ўсё нашае — вялікая ерунда, што ён у Польшчы нічога не дасягне, што ў капіталістычных краінах, дык ён як дацэнт быў бы панком, а тут амаль жабрак. Гэта аргументацыя мяне ўзарвала і я мусіў моцна сябе зацугліць, каб дацэнту паcаўнаўча спакойна сказаць наступнае: „У капіталістычнай Польшчы ў цябе вехці вылазілі з лапцяў, а ў Народнай Польшчы вехці палезлі ў цябе з галавы. Да капіталізму сваю дацэнтуру прышпільваеш без ніякіх асноў. У капіталізме ты быў бы тым, чым ты быў да вайны, а стаў ты дацэнтам у Народнай Польшчы. Ты ж быў на Захадзе. Калі табе там так спадабалася, дык трэба было астацца назаўсёды“.

Дацэнт выразна збянтэжыўся. Быў вельмі незадаволены, што не знайшоў у маёй асобе аднадумцы і сабрата ў

(Праццяг на стар. 6)






## БЕЛАРУСКАЕ МОВАЗНАЎСТВА
### (З інтэрв'ю прафесара М. Бірылы „Голасу Радзімы“)

**— Якія дзяржаўныя ўстановы рэспублікі займаюцца праблемамі развіцця нацыянальнай мовы?**

— Асноўная работа па даследаванню праблем беларускай мовы і нармалізацыі літаратурнай мовы вядзецца ў інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі. У інстытуце ёсць сем аддзелаў: гісторыі беларускай мовы, беларускай дыялекталогіі, сучаснай беларускай мовы і культуры мовы, беларускай лексікалогіі, і лексікаграфіі, эксперыментальнай фанетыкі, рускай мовы, агульнага і славянскага мовазнаўства. Пяць з іх займаюцца выключна пытаннямі беларускага мовазнаўства, а два — рускай мовы і агульнага і славянскага мовазнаўства — у параўнальным плане з іншымі славянскімі мовамі. Як сведчаць назвы аддзелаў, у інстытуце мовазнаўства даследуецца гісторыя беларускай мовы — узнікненне і станаўленне яе, развіццё структуры ўсіх узроўняў мовы; беларуская народнадыялектная мова, ці інакш кажучы, беларускія народныя гаворкі, усе бакі структуры сучаснай беларускай літаратурнай мовы — фанетыка, арфаэпія, акцэнтуацыя, словазмяненне, словаўтварэнне, лексіка, сінтаксіс; узаемадзеянне беларускай і рускай моваў у працэсе іх сумеснага функцыяніравання ў Беларусі.

Значную работу вядуць моўныя кафедры трох універсітэтаў, а таксама Брэсцкага, Віцебскага, Магілёўскага, Мазырскага і Мінскага педагагічных інстытутаў, Інстытут педагогікі Міністэрства асветы БССР.

**— Раскажыце, калі ласка, пра найбольш значныя працы нашых вучоных у галіне мовазнаўства за апошняе дзесяцігоддзе.**

— У першую чаргу тут можна адзначыць серыю лексікаграфічных работ. У прыватнасці, Тлумачальны слоўнік беларускай мовы ў пяці тамах (6 кнігах), Гістарычны і Этымалагічны слоўнік беларускай мовы, Слоўнік мовы Скарыны, перакладныя Руска-беларускі слоўнік пад рэдакцыяй Кандрата Крапівы, Украінска-беларускі — Валянціны Лемцюговай; рэгіянальныя — Тураўскі слоўнік, слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Такія працы, як „Беларуская граматыка“, „Фанетыка слова ў беларускай мове“ будуць садзейнічаць нармалізацыі і павышэнню культуры беларускай літаратурнай мовы. Адзначу і манаграфічныя даследаванні: „Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV-XVII стагоддзяў“ Аляксандра Булыкі, „Гістарычная марфалогія беларускай мовы“, аўтары Аляксандр Булыка, Аркадзь Жураўскі, Іван Крамко, „Беларуская фразеалогія“ Анатоля Аксамітава, „Беларуская антрапанімія“ Мікалая Бірылы, „Праблемы фразеалагічнай стылістыкі“ Івана Лепешава.

**— Раскажыце коратка, на што звернута галоўная ўвага навуковых лінгвістычных сіл Беларусі ў 80-я гады?**

— На вывучэнне такіх праблем, як сучасная беларуская літаратурная мова, культура мовы, беларуская дыялекталогія, гісторыя беларускай мовы, лексікалогія, узаемадзеянне беларускай мовы з рускай і іншымі суседнімі мовамі. Па кожнаму з гэтых напрамкаў рыхтуюцца падручнікі, даведнікі, слоўнікі, манаграфіі і зборнікі артыкулаў. У друку знаходзіцца вялікі Нарматыўны слоўнік беларускай мовы, у якім прадстаўлена арфаграфія, формазмяненне і акцэнтуацыя сучаснай беларускай мовы. Ён выйдзе з друку ў 1987 годзе. Рыхтуецца да выдання пяцітомны Слоўнік мовы твораў Якуба Коласа. перакладныя руска-беларускія тэрміналагічныя слоўнікі па грамадска-палітычнай і сельскагаспадарчай тэрміналогіі, рыхтуюцца чарговыя тамы Гістарычнага і Этымалагічнага слоўнікаў беларускай мовы.

У 80-я гады нашы мовазнаўцы ўжо правялі значную даследчую працу. У галіне вывучэння беларускай народнай мовы дыялектолагі на аснове спецыяльна сабраных у шматлікіх вёсках Беларусі матэрыялаў падрыхтавалі пяцітомны Лексічны атлас беларускай мовы. У гэтай працы сабрана народная беларуская лексіка па ўсіх важнейшых тэматычных групах. На лінгвістычных картах паказана тэрытарыяльнае распаўсюджанне розных лексем у межах функцыяніравання беларускай народна-дыялектнай мовы. Атлас будзе скарбніцай беларускай народнай лексікі, на доўгія гады захавае слоўны запас народа. Работы ў гэтай галіне працягваюцца — у завершаным выглядзе атлас будзе мець каля дзвюх тысяч карт.

**— Мікалай Васільевіч, як развіваюцца міжнародныя кантакты беларускіх вучоных-мовазнаўцаў?**

— Кантакты гэтыя шырокія і пастаянна развіваюцца, што, я думаю, можа гаварыць аб прэстыжы нашай мовазнаўчай навукі на міжнароднай арэне. Беларускія вучоныя ўдзельнічаюць у сумесных работах, у арганізацыі і правядзенні міжнародных кангрэсаў і канферэнцый. Так, напрыклад, сумесна з вучонымі іншых еўрапейскіх краін вядзецца падрыхтоўка „Лінгвістычнага атласа Еўропы“, з вучонымі славянскіх і некаторых суседніх з імі неславянскіх краін — падрыхтоўка „Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа“. З вучонымі Польскай Народнай Рэспублікі сумесна вывучаюцца беларуска-польскае моўнае пагранічча, анамастыка Пабужжа, беларуская і польская фразеалогія, складаецца Беларуска-польскі слоўнік, Беларуска-польскі фразеалагічны слоўнік і іншыя.




## У „ПАСТЦЫ БЕДНАСЦІ“

33 мільёны амерыканцаў трапілі ў „пастку беднасці“. Амерыканцы вызначаюць беднасць як адсутнасць сродкаў для задавальнення асноўных жыццёвых патрэбнасцей — нармальна харчавацца, мець жыццё і карыстацца медыцынскім абслугоўваннем.

„Мільёны амерыканцаў бедныя“, — прызнае часопіс „Форчун“, які выходзіць у ЗША. У першую чаргу гэта прадстаўнікі нацыянальных меншасцей, беспрацоўныя, моладзь, мнагадзетныя сем'і. За рысай беднасці знаходзяцца 30.9 працэнта негрыцянскіх сем'яў; 25,2 працэнта сем'яў іспанагаворачых амерыканцаў. Сярод белага насельніцтва — 9,1 працэнта.

Паводле падлікаў грамадскіх арганізацый, у Злучаных Штатах налічваецца цяпер ад 2 да 3 мільёнаў бяздомных. „Штогод толькі ў Вашынгтоне за нявыплату высяляюць з кватэр дзве тысячы сем'яў“. — заявіў Мітч Снайдэр, адзін з кіраўнікоў арганізацыі „Грамадскасць за стваральнае ненасілле“.

Урад Злучаных Штатаў гаворыць аб апошніх чатырох гадах як аб перыядзе эканамічнага „аздараўлення“. Але ў той жа час больш 8 мільёнаў амерыканцаў, г.зн. 7 працэнтаў насельніцтва краіны, не маюць работы. А беднякоў у Амерыцы цяпер на 4 мільёны больш, чым да моманту прыходу цяперашняй адміністрацыі да ўлады.

Як лічыць штотыднёвік „Ю. С. ньюс энд уорлд рыпорт“, не толькі ў гэтым, але і ў наступным годзе няма ніякіх перспектыў рэальнага зніжэння ўзроўню беспрацоўя. Часопіс б'е трывогу, на яго думку, пры чарговым эканамічным спадзе працэнт беспрацоўя будзе выражацца ўжо двухзначнай лічбай.

Урадавыя крыніцы інфармацыі многа гавораць аб эканамічных дасягненнях Амерыкі, аб яе магутнасці і багацці. Аднак побач з багатай Амерыкай усё больш выразна вырысоўваецца бедная. Цяпер ужо не толькі беспрацоўныя, але і ўсё большая колькасць працуючых амерыканцаў папаўняюць рады беднякоў.

Прадстаўнікі адміністрацыі любяць пагаварыць аб дзеючай у ЗША шырокай праграме барацьбы з беднасцю. Існуюць прэзідэнцкія камісіі, камітэты кангрэса, якія наладжваюць слуханні па гэтаму пытанню. А воз і цяпер там. Больш таго, ён усё глыбей загразае ў багне невырашальных праблем. **В.К.**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Удзельніцы дэкламатарскага конкурсу са школы № 2 у Гайнаўцы. Як гаспадары раённага агляду, яны выступілі ў большым складзе, а таксама частавалі ўсіх удзельнікаў чаем і пячэннем.

З РАЁННАГА ДЭКЛАМАТАР-СКАГА КОНКУРСУ

# У ГАЙНАЎЦЫ

„І я, і ты — мы ўсе браты". Гэтыя словы з вядомага верша Артура Вольскага некалькі разоў паўтараліся ў адным з класаў гайнаўскай школы № 2, дзе 22 лістапада адбываўся раённы агляд чарговага дэкламатарскага конкурсу вучняў надставовых школ.

Сёлета ўсе школы, якія прынялі ўдзел у гэтым конкурсе, былі падзелены на чатыры раёны (Беласток — з Заблудавам, Нарвай, Нараўкай, Гарадком, Міхаловам, Крынкамі, Шудзялавам, Саколкай і Дубровай; Бельск — з шырокай ваколіцай, Гайнаўка з Белавежай і Чыжамі; Кляшчэлі — з Орляй, Дубічамі, Мілейчыцамі, Вулькай Нурэцкай і Чаромхай).

У раённым конкурсе ў Гайнаўцы ўдзельнічалі дзеці з сямі школ Гайнаўшчыны — з Чыжоў, Курашава, Арэшкава, Дубін, Кленік і гайнаўскіх школ — № 2 і № 3.

Гаспадаром раённага конкурсу была школа № 2 у Гайнаўцы. Клас, у якім адбываўся конкурс, павітаў гасцей лозунгам — урыўкам верша Ніла Гілевіча:

Я — беларус, і я шчаслівы,
Што маці мову мне дала,
Што родных песень пераліва
І зблізку чую, і здаля.

Тэма сёлетняга конкурсу была вельмі ўдзячнай і давала шырокія магчымасці выбару цікавых тэкстаў прозы і паэзіі. Лозунг „Мір і дружба" уключаў у сябе паняцці аб імкненні жыць у міры, пратэст супраць вайны, сяброўства паміж дзецьмі ўсіх краін, таварыскія адносіны ў класе, а таксама лад і згода ў сям'і, матчына любоў да дзяцей і шмат іншых шырокіх і вельмі людскіх пачуццяў.

Таму і дэкламаваныя тэксты былі вельмі цікавыя. Асабліва спадабаліся ўсім слухачам урыўкі з прозы, якія дэкламавалі ўдзельніцы з Дубін (рыхтавала настаўніца Вольга Гарустовіч) і з Кленік (настаўніца Марыя Базылюк).

Задзівіў усіх вельмі роўны і высокі ўзровень дэкламуючых. Камісія мела вялікія клопаты з выбарам удзельнікаў на цэнтральны агляд. На добрую справу, можна было б з гэтага агляду вытыпаваць чалавек 15. Але рэгулямін дазваляў выслаць толькі шасцёх. Такім чынам на цэнтральны агляд паедуць з малодшых класаў Гражына Галавачык з Кленікаў, Эля Раманюк з Чыжоў і Эва Сапяжынская з Курашава. Са старэйшых класаў: Барбара Гіншт з Дубін, Святлана Касценчук з Кленік, Аня Аксенцюк з Дубін, Бася Сахарчук з Кленік і Агнешка Дзмітрук з гайнаўскай школы № 2.

Удзельнічала ў конкурсе 26 чалавек. Сярод іх толькі адзін хлапчук — адважны Юрка Астапчук з Гайнаўкі. Ён таксама выступіў добра, мае цікавы цёплы голас. Калі яшчэ трошкі папрацуе над дыкцыяй, мае шанцы заняць добрае месца ў наступным конкурсе.

Жадаю ўсім ім добра выступіць у цэнтральным аглядзе.

Яніна Чэрнякевіч
Фота аўтара




Віктар Швед

### ВАСЯ НАЙМАЦНЕЙШЫ Ў КЛАСЕ

— А з геаграфіі — таксама
Слабы ты? — запытала мама.
— Ды што ты! — запярэчыў
Вася, —
Я — наймацнейшы ў нашым
класе.
Я — найважнейшая асоба,
Прынашу ў клас вялікі глобус.

### НА ПЕНСІІ АД СЁННЯ ДЗЕДКА

— Выконваць буду, — кажа
Ваня, —
Сумленна хатнія заданні.
— Ты кляўся неаднаразова
І не стрымаў ніколі слова.
— Ды цэлы клас хай будзе
сведкам,
На пенсіі ад сёння дзедка.

### ХТО РАШЫЎ ЗАДАЧУ

Матэматык запытаў Ганулю:
— Ты прызнайся, хто рашыў
задачу,
Твой дзядуля, ці твая бабуля?
Выглядае почырк твой іначай.

— Адказаць на гэта вельмі
цяжка,
Разам над задачкаю пацелі,
А калі знайшлі яны развязку —
Вельмі моцна спала я ў пасцелі.

### БУДЗЕ З МІКОЛЫ МЕТЭАРОЛАГ

— Гультай расце нам, —
скардзіцца мама, —
Ён у пасцелі цэлымі днямі,
Ляжыць у ложку,
глядзіць у хмары,
І робіць выгляд, быццам ён
марыць.
Тата на гэта: — Мабыць,
з Міколы
Будзе калісьці метэаролаг.

РЫХТУЕМСЯ ДА ЁЛКІ

*Па просьбе дзяцей і настаўніцы школы ў Дубінах друкуем п'есу на навагоднюю ёлку. Паводле В. Палуян і Ю. Цэйтліна.*

# ПРЫХОДЗЬ, ЁЛКА!

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Дзед Мароз, Снягурачка, Пеця, Лясун і Клоун.

### ПЕРШАЯ КАРЦІНА

*На сцэну выбягае Снягурачка.*
Снягурачка *(азіраецца)*. Я першая. Дзеда Мароза яшчэ няма. *(Глядзіць у залу)*. А, вы ўжо прыйшлі. Добры вечар, дзеці!

*Зала адказвае.*

Снягурачка. А што ж гэта дзядулі майго так доўга няма? Давайце ўсе разам паклічам яго... Дружна! *(Разам з залай)*. Дзя-ду-ля Ма-роз! *(Прыслухоўваецца.)* Мабыць, трэба галасней *(Разам з залай.)* Дзя-ду-ля Мароз!

Голас Дзеда Мароза. О-го-го! Чу-ю!

Снягурачка. Мы цябе чакаем!

Голас Дзеда Мароза. А дзеці ўсе на месцах?

Снягурачка *(разам з залай)*. Усе-е!

Голас Дзеда Мароза. Тады вылятаю... Давайце старт!

Снягурачка *(у залу)*. Дзеці, каб даць старт дзядулевай ракеце, трэба лічыць ад дзесяці назад і сказаць слова „пуск". Зможаце?

*Зала адказвае.*

Тады пачынаем! *(Лічаць разам.)* Дзесяць... Дзевяць... Восем... Сем... Шэсць... Пяць... Чатыры... Тры... Два... Адзін... Пуск!..

*Чуваць шум стартуючай ракеты. Шум нарастае.*

*(На фоне шуму лятучай ракеты).*

Дзеці. Дзядулю Мароза трэба сустрэць дружнымі воплескамі, а потым сказаць голасна: „Вітаем, Дзядуля Мароз!" Давайце патрэніруемся.

*Снягурачка паўтарае з дзецьмі сустрэчу Дзеда Мароза. Вось чуваць, як ракета прызямляецца. На сцэну як мага ўрачысцей выходзіць Дзед Мароз. Добра, каб яго суправаджала світа ўдзельнікаў канцэрта ў касцюмах.*

Дзед Мароз. Вітаю, дарагія госці!

Снягурачка *(разам з залай.)* Вітаем, Дзядуля Мароз!

Дзед Мароз. Дык вось, даражэнькія. Час свята пачынаць.

Каб ляпей спявалася,
Каб радасць не моўкла.
Скажам усе разам:
Прыходзь, ёлка!
Прыходзь, ёлка!
Прыходзь, ёлка!

А ёлачная камісія ў вас ёсць?

(Працяг на стар. 10)

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## КІЕЎСКАЯ РУСЬ

— Папераджаў я вас, што сёння мы зноў павандруем у мінулае беларускага народа, — сказаў настаўнік, калі пяцікласнікі пасля прывітання з ім селі на свае месца і суцішыліся. — Аднак гэтае падарожжа не павядзе нас у невядомае, бо вы ўжо трошкі ведаеце пра нашых продкаў.

Ён спачатку папрасіў Ніну, а потым Аркадзя і Пецю, каб яны расказалі пра беларускія плямёны, першыя княствы на беларускіх землях, заняткі і вераванні нашых продкаў.

У класным дзённіку насупраць прозвішча Ніны стала чацвёрка, бо хоць яна дакладна расказвала пра крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, але ніяк не змагла знайсці на карце раку Сож, па якой жылі радзімічы. Аркадзь дапамог ёй, затым расказаў пра Полацкае і Тураўскае княствы. Пеця вельмі падрабязна прыпомніў заняткі, вераванні і абрады нашых продкаў. Вядома, хлопцы атрымалі па пяцёрцы.

Затым настаўнік расказаў пры тое, што таксама як Полацкае і Тураўскае, паўсталі княствы ў суседніх плямёнаў: у палян са сталіцай Кіевам, у славенаў з Ноўгарадам і іншыя. Ноўгарадскі князь Алег паступова пачаў падпарадкоўваць гэтыя княствы сваёй уладзе. Спачатку ён заняў Полацкае княства, затым Тураўскае, апанаваў радзімічаў. Таксама Алег авалодаў іншымі княствамі і стварыў вялікую старажытнарускую дзяржаву са сталіцай у Кіеве, адтуль яе назва — Кіеўская Русь.

Еднасць гэтай дзяржавы пратрывала нядоўга. Пры пераемніках Алега паасобныя княствы выйшлі з-пад улады кіеўскага князя, адлучыліся таксама Полацкае і Тураўскае княствы. Князь Уладзімір зноў аб'яднаў усе княствы ў супольнай дзяржаве. Каб утрымаць Кіеўскую Русь, ён пазбаўляў улады мясцовых князёў і на іх пасады ставіў сваіх сыноў або давераных людзей.

— У старых хроніках захавалася цікавая легенда пра полацкую княжну Рагнеду і яе сына Ізяслава, — заўважыў настаўнік і запытаў клас: — Хто нам прачытае яе?

Падняўся лес рук, але настаўнік падаў кнігу Ніне, няйначай каб падбадзёрыць яе пасля няўдачы каля карты. Узрадаваная Ніна ўзяла кнігу і бойка пачала чытаць:

„У Полацкім княстве ў 980 годзе панаваў мужны князь Рагвалод. Тады ж у суседнім Ноўгарадзе княжыў малады Уладзімір. Ён рыхтаваўся да вайны са сваім братам князем кіеўскім Яраполкам. Каб заручыцца дапамогай Рагвалода, рашыў Уладзімір парадніцца з ім і папрасіў сабе ў жонкі яго дачку Рагнеду. Князёўна ж збіралася замуж за Яраполка і адмовілася выйсці за Уладзіміра. Тады ўгневаны ноўгарадскі князь напаў з вялікім войскам на Полацкае княства, здабыў яго сталіцу, забіў Рагвалода і яго сыноў, а прыгожую Рагнеду прымусіў стаць яго жонкай. У іх нарадзіўся сын Ізяслаў".

**Працяг у наступным нумары**

# ПРЫХОДЗЬ, ЁЛКА!

**(Працяг са стар. 9)**

Голас з залы. Ёсць.

Дзед Мароз. Прашу ёлачную камісію на сцэну.

*На сцэну выходзіць Пеця.*

А дзе ж камісія?

Пеця. А навошта мне камісія? Я ўсё сам зраблю. Сам высяку, сам упрыгожу, сам лямпкі запалю, сам вершык прачытаю, сам патанцую, сам песню заспяваю...

Дзед Мароз. Сам, сам, сам... А як жа цябе завуць? Сам Самюк?

Пеця. Не. Я Пеця Пеўнік.

Дзед Мароз. А можа Самахвала? Усё хвалішся ды хвалішся.

Снягурачка. А мне здаецца, што трэба аднак ёлачную камісію выбраць.

Пеця. Яшчэ чаго! Пакуль вы тут выбіраць будзеце, я ўжо ёлку прынясу. *(Выбягае.)*

Дзед Мароз. Пеця! Пеця!.. Пабег... Але ж непаслухмяны! А ты, мая ўнучка, паслухмяная?

Снягурачка. Паслухмяная..

Дзед Мароз. А маё даручэнне выканала?

Снягурачка. Ой, дзядуля, забылася?

Дзед Мароз. А толькі ж учора паказваў... І план маляваў... Дзе план?

Снягурачка. Плана не трэба, я і так памятаю!

Дзед Мароз. Ты, я бачу, зусім, як Пеця: „Я ведаю, я памятаю!" Ну дык па парадку, што я загадваў.

Снягурачка. Адшукаць у лесе схованку, дзе ляжаць у лесе ёлачныя цацкі з мінулага года.

Дзед Мароз. Правільна. А як ты знойдзеш схованку?

Снягурачка. Па плану, што ты намаляваў. Адшукаю ў лесе стары дуб, ад яго павярну на поўнач, дайду да замерзлага раўчука, потым павярну на поўдзень і дайду да... да...

Дзед Мароз. Ну да чаго?

Снягурачка. Дзядуля, а ты падкажы, куды мне ад раўчука ісці.

Дзед Мароз *(у залу)*. Дзеці, Снягурачка просіць, каб ёй падказаць. Ці можна?

*Дзеці адказваюць.*

Снягурачка. Гэта ж першы і апошні раз. Самы, самы апошні!

Дзед Мароз. Я б табе падказаў, але баюся, што дзеці мне двойку паставяць. Лепш я ў іх дазволу папрашу. *(Звяртаецца ў залу.)* Дзеці, можна мне адзін адзіны раз падказаць Снягурачцы?

*Дзеці адказваюць.*

Ну добра, падкажу. Ад замёрзлага раўчука павернеш на поўдзень і ўбачыш стары вятрак. Падыйдзеш да яго і голасна скажаш: „Вятрак, вятрак, пакажы крылом, дзе цацкі ляжаць, пад якім кустом."

Снягурачка. Вось дзякуй табе, дзядуля. Цяпер ніколі не забуду... *(Хоча бегчы).*

Дзед Мароз. Пачакай, падскакуха! Як пакажа вятрак месца, асцярожна разграбай снег, каб цацкі не паламаць, а ідучы дадому, не спяшайся, не ўпадзі.

Снягурачка. Добра, дзядуля, усё зраблю, як ты кажаш. *(Выбягае.)*

Дзед Мароз. Ну, за Снягурачку я спакойны. А вось Пеця, каб чаго не нарабіў, каб што з ім у лесе не здарылася! Пайду па яго слядах... Ага, а як жа я вас тут адных пакіну? Вось клопат. Пачакайце, здаецца, прыдумаў.

У канцэрце першы нумар!
Песня, жарт і добры вершык.
Падрыхтуйцеся на гумар.
А цяпер — выходзь,
хто першы!

*Пачынаюцца канцэртныя нумары.*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

*На сцэне лес. Аглядаючыся, уваходзіць Пеця.*

Пеця. І зусім мне не страшна. Ну што тут страшнага? Дрэвы, як дрэвы, і снег звычайны, як на падворку... І зусім няма патрэбы хадзіць цэлай камісіяй па ёлку... Ой, што гэта? *(Замірае ад страху.)* Ці мне здалося? А тут і ёлачак прыгожых няма. Вось толькі адна стаіць... Зараз мы яе... *(Падыходзіць з пілой да елкі.)*

*Нечакана (найперш праз мікрафон) гучыць суровы голас.*

Голас. Не руш.

*Пеця спалохана адскоквае.*

Пеця. Хто гэта? *(Глядзіць па баках).* Зноў здалося? Вось вазьму зараз гэтую ёлку і... *(Хоча піліць елку).*

Голас. Не чапай елку.

*Пеця кідае пілу.*

Пеця. Але хто тут? Падумаеш! „Не чапай елку! „Тады іншую выберу... *(Падыходзіць да другой елкі, пачынае пілiць.)*

Голас. І гэту елку не чапай!

Пеця. Гэта што, твае елкі, ці што?

Голас. Нашы.

Пеця. Калі нашы, дык чаму ж не даеш?

*Чуваць трэск галля і крокі. Паяўляецца Лясун — зарослы барадой асілак, у якога замест рук голыя галіны. Пеця ад страху падае, падхопліваецца і пачынае бегчы.*

Лясун. Стой!

*Пеця як зачараваны, спыняецца на паўкроку.*

Лясун. Не бойся, я табе нічога кепскага не зраблю. Гэта ты хацеў прынесці боль нашаму лесу.

Пеця. Хто ты?
Лясун.
Я стары добры Лясун,
Лес ахоўваю і травы,
Каб ніхто нідзе не псуў
Нам прыроды для забавы!
Калі ты ў наш лес прыйшоў,
Беражы і лес і воды,
Не ламай, не рві карчоў!
Будзь і ты сябром прыроды!

**Працяг у наступным нумары**

# ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

**СССР, 344036, г. Данецк-36, ул. Аральская, 18. Сапелкина Оля. 5 клас.**

* * *

**СССР, 340036, г. Донецк-36 ул. Сухумская, 23. Тихомирова Шура. 5 клас.**

* * *

**СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, п. Майский, ул. Советская, 32, кв. 29. Остапенко Лене. 6 клас.**

* * *

**СССР, 346519, Ростовская обл., г. Шахты, п. Фрунзе, 3-й микрорайон, общ. № 2, дом 16, кв. 121. Якуниной Инне. Хоча перапісвацца з хлопчыкам 15-16 год.**

* * *

**СССР, 346519, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Перекопская, 8. Зайцевой Наташе. Хоча перапісвацца з хлопчыкам 15-16 год.**

* * *

**СССР, 346909, г. Новошахтинск, Ростовской обл., ул. Дальневосточная, 17. Чернышковой Ларисе.**

* * *

**СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Искра, 59-27. Мажукины Лена (5 клас) и Оксана (6 клас).**

* * *

**СССР, 346515, г. Шахты, Ростовской обл., ул. Краковская, 4. Завьялов Руслан. 10 год.**

## АДГАДАНКА



**Якія з чатырох прадметаў трэба намаляваць у пустых клетачках?**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

З суседскага агародчыка

## АБЕДЗЕННАЯ РАЗМОВА

Жонка мужу кінула ў абед:
— Пра сям'ю ці ж гэтак людзі дбаюць!?
Вунь сусед наш, дык як след:
Цягне, што пад рукі пападае.
Сам Сцяпан мяшкамі валачэ,
Тоны дзве ён бручкі склаў у склепе.
Малака у іх — ракой цячэ!
— Дык кароўку кормяць як найлепей.
— Кормяць. На Марысю іх зірні —
З фермы камбікорм на тачцы возіць:
Парсюкоў пяцёра, тры свінні...
— Ды нязжо яны вось так і носяць?..
— Павучыўся б ты ў іх, вунь іх зяць
Вітамінную муку дамоў цягае,
І дачушка Верка як піць даць —
Ад цялятак малачко ўрывае.
Толькі ты адзіны брыгадзір —
Ці такі дурны ўжо ці законнік! —
Хоць бы раз узяў сям'і на здзіў,
Ты што-небудзь для свінні Хаўронні.
— Дзякуй, жонка, за мараль, яду, —
З-за стала устаў парыўна Хведар. —
Зараз жа праўленню даведу,
Што вось толькі ад цябе уведаў...
— Стой, дурны! Што ўзвіўся ты, як вуж,
Крыўдаваць жа будуць на нас людзі...
— Не, сяброўка, за Хаўронкін тлушч
Мы сумленне прадаваць не будзем.
За дармовым, жонка, не ганіся...
Так пайшоў не еўшы чалавек,
І ў дадатак з жонкай пасварыўся.

Мікола Дубоўскі

### НА ЗАРАДЦЫ



Знайдзіце на малюнку адзін з шасці прадметаў, змешчаных над малюнкам.

## НІУКА



— Бач ты, гаспадар фірмы збанкрутаваў, а сакратарка ўсё-ткі засталася!

### У ЦЫРКУ

— Ад чаго памёр ваш муж?

— Ад пазяхання!

— Не можа быць! Ад гэтага яшчэ ніхто не паміраў.

— Муж працаваў акрабатам, і нейк у цырку выконваў нумар, учапіўшыся зубамі за вяроўку. І вось яму захацелася пазяхнуць і...

### НАШЫ ДЗЕЦІ

Седзячы на заднім сядзенні і слухаючы, як сварацца бацькі, маленькі Міколка раптам пытае:

— Тата! А хто гаварыў табе, як весці машыну, пакуль ты не ажаніўся з мамай?

### НЕ ПАЗНАЎ

— Чаго гэта ты, Кастусь, увесь пашматаны такі?

— Ды сабака напаў.

— Чужы?

— Дык у тым і справа, што свой.

— П'яны, мабыць, прыйшоў?

— Ды дзе там! Цвярозы. А ён мяне праз гэта і не пазнаў..



— Зноў ідуць!



На сходах гнуў спіну, затое на рабоце не толькі паказваў.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Абменьваюцца вопытам рыбакі.

— Класная прынада з мух! — цвердзіць адзін.

— А ты матыля прабаваў?! — гаворыць другі.

— Няма лепш голага кручка! — падсумоўвае трэці.

— Ну, ты загнуў!

— Аніколькі. Трэба толькі спосаб ведаць. Прыходжу, сядаю ля палонкі і пачынаю ціхенька расказваць, якія гіганты-прыгажуны трапляліся мне калісьці. Рыба, каб лепш было чуваць, высоўваецца з вады, разявае рот ад здзіўлення. Тут ты ёй кручок у пашчу і — цягні!

✲

Маленькая Брыгіта гартае тэлефонны даведнік, спыняецца на адной старонцы і чытае: — Серансен, Серансен, Серансен... Вось дурны дзядзька. Навошта яму так многа тэлефонаў?

### КАБ НЕ СТАЦЬ ПАРУШАЛЬНІКАМ

Калі пенсіянер Ягор прыехаў пагасціваць у горад да сваёй дачкі Насты, то яна цэлы тыдзень не хадзіла на работу, усё адпрошвалася па тэлефоне. Аднойчы не стрымаўся Ягор, сказаў:

— Паеду я дамоў.

— Што, табе ў нас не падабаецца? — здзівілася дачка.

— Не, падабаецца, але баюся, што мне тваё начальства аб'явіць вымову за парушэнне тваёй працоўнай дысцыпліны.

Савелій Паўлаў

З „Весніка Задрыпоніі"

### АКТЫЎНАСЦЬ

Ні мінуты не прастойвае на рабочым месцы механік Сярдзюкевіч. З раніцы ён збірае прафсаюзныя ўзносы, пасля абеду абараняе гонар прадпрыемства на татамі (дыван для барацьбы дзю-до) і заканчвае на рэпетыцыі групы „Ю-ю-ля-лю".

### ДЫЛЕМА ДАЦЭНТОВІЧА

Ці можна лічыць чалавека паліглотам, калі ён умее маўчаць на ўсіх мовах?









— Ты павінен ганарыцца, што твой сын не баіцца прыносіць дамоў такі дзённік!

## Курёзы

### ПІРОГ ДЛЯ ГУЛІВЕРА

Не да кожнага стала можна падаць яблычны пірог, выпечаны ў пякарні чэхаславацкага горада Фрэнштат-пад-Радгашцем. Яго размер — 21 квадратны метр, а вага — 290 кілаграмаў.

З задавальненнем пакаштавалі гіганцкі пірог наведвальнікі маладзёжнага клуба ў Остраве, куды ён быў дастаўлены на спецыяльна абсталяваным грузавіку. У прысутнасці натарыуса пірог узважылі і абмералі. Акт аб гэтым кулінарным вырабе адпраўлены ў Лондан для рэгістрацыі ў кнізе рэкордаў Гінеса.

### З КНІГІ ГІНЕСА

Бельгіец Бруна Лайнен, сеўшы на самалёт Брусель — Окленд (Новая Зеландыя), паставіў перад сабою мэту не даляцець як мага хутчэй да канцавога пункта, а як мага больш затрымацца ў дарозе. І затрымаўся 11 месяцаў, зрабіўшы за гэты перыяд 109 прыпынкаў у розных краінах, налятаўшы каля 85 тысяч кіламетраў і пакінуўшы сабе на памяць авіяцыйны білет з дадатковымі купонамі даўжынёю 13 метраў.




Калі вы больш, чым адзін дзень, адчуваеце сябе шчаслівым, значыць, ад вас нешта скрываюць.